Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

11 красавіка 1998 года
СУБОТА
№ 28 (108)
Наш індэкс 63834

ІВАЦЭВІЧЫ

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## Вайна "графіці" працягваецца?

Сапраўдная партызанская вайна разгарэлася паміж невядомымі аматарамі "графіці" і дарожнымі службамі.

Паслядоўнікі Шыдлоўскага і Лабковіча, якіх жорстка за такія дзеянні пакараў сучасны рэжым, не асмельваючыся сёння "засвечвацца" на вуліцах, выбралі для выяўлення сваіх ідэй розныя збудаванні ўздоўж двух аўтастарад, што ідуць праз нашыя Івацэвічы.

Напрыклад, з месяц назад на сінім бетонным шчыце ля п. Майск хтосьці зрабіў жахлівы для сучасных улад надпіс "Наш дом — Беларусь".

Хутка гэты страшэнны надпіс быў зафарбаваны, але чамусьці чырвонай фарбай. Але ўжо новыя выразы з'явіліся ля Чамялоў, прычым з двух бакоў ад дарогі. І зноў службы спрацавалі аператыўна, праўда, ізноў асабліва не звяртаючы ўвагу на эстэтыку. Няйначай па вартаўніку трэба паставіць ля кожнага шчыта ці збудавання. Бо дзе ж набрацца фарбы для знішчэння "графіці" тым жа дарожнікам?

## "Олимпийка" как зеркало двух систем

Если стать на Яглевичском мосту, что живописной дугой зависает над автострадой, и глянуть вниз, на автостраду, то не будешь знать, чему и удивляться. Одна проезжая часть дороги, та, которую капитально ремонтировали в прошлом году,основываясь на итальянских технологиях, оборудовании, специализации, перезимовала прекрасно — ровная, чистая, ни выбоины, ни ямки. Другая, которую с дня построения ремонтируют, латают-перелатывают "совдеповскими" способами родные дорожники, — навевает тоску. Кажется, что эту дорогу только что бомбили. И это только если смотреть! А как по ней ехать?

Проезжая часть разбита настолько, что на некоторых участках этого направления установили знаки, ограничивающие скорость до 60 км/час. А ведь даже по гравийным дорогам разрешается движение со скоростью 70 км/час! Вот вам и автомагистраль "посоветски"!

Можно много говорить о достоинствах социализма, можно, исписав кучу бумаги, доказывать обратное, но можно привести аппонента на Яглевичский мост — и показать эти "достоинства".

Конечно, говорливые аппоненты из какого-нибудь провинциального госсиндиката обязательно найдут что ответить, даже когда проедутся по этим дорогам.

Редакция "Газеты для вас" уважает право этих людей на оригинальность, однако просит их особо не усердствовать в красноречии при проезде по "совдеповской" полосе, потому что как бы не случилось так, что особо говорливые коммунисты от тряски язык себе прикусят. Или, не дай Бог, вовсе кусочек откусят.

## "Рэканструкцыю закончым у маі"

Наша газета 23 ліпеня мінулага года ў заметцы "Рэканструкцыя пачалася" паведамляла аб тым, што ў Івацэвічах па вуліцы Дзяржынскага (паўночная частка яе) распачаліся работы па рэканструкцыі праезджай часткі. Гэта было выклікана тым, што ў час дажджоў частку двароў і агародаў прыватных дамоў літаральна залівала вадой.

Начальнік участка Івацэвіцкага міжгаспадарчага прадпрыемства па рамонту і будаўніцтву ўнутрыгаспадарчых дарог Г. А. Сацішур, які кіраваў летась работамі па рэканструкцыі праезджай часткі вуліцы, абяцаў, што да канца жніўня ўсё будзе зроблена.

З тых дзён мінула больш як паўгода. "Чаму ж спынілася рэканструкцыя вуліцы?" — пытаюцца зноў і зноў яе жыхары.

З гэтым пытаннем рэдакцыя звярнулася да дырэктара Івацэвіцкага міжгаспадарчага прадпрыемства па рамонту і будаўніцтву ўнутрыгаспадарчых дарог А. І. Кісяля. "Нядаўна ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва райвыканкама ішла размова аб гэтым, — сказаў Аляксандр Іванавіч. — Вышукваюцца сродкі на працяг рэканструкцыі. Многія матэрыялы ўжо ёсць. Як толькі пачне работу асфальтны завод, можна будзе працягваць пачатае. Мяркуем, што рэканструкцыю закончым у маі".

Вось такі адказ службовай асобы. Што ж, зноў жыхарам вуліцы прыйдзецца чакаць і спадзявацца.

БЯРОЗА

## "Гістарычная брама"

— такую назву носіць бюлетэнь-дайджэст грамадскага аб'яднання "Бяроза-Картузская" імя Казіміра Сапегі. Першы нумар дайджэста ўбачыў свет у мінулым годзе, пяты (і першы ў гэтым годзе) выдадзены нядаўна. У ім змешчаны шэраг артыкулаў з газеты "Наша ніва" за 1910—1912 г.г., якія маюць дачыненне да нашага рэгіёна. Думаецца, з гэтых старых газетных заметак цікава будзе даведацца аб жыцці нашых продкаў на пачатку XX стагоддзя.

Тым больш, што некаторыя тагачасныя праблемы і пытанні застаюцца актуальнымі і на сённяшні дзень.

Ёсць у новым нумары "Гістарычнай брамы" і публікацыя пра картэзіянскі кляштар у Бярозе, развалiны якога і цяпер хвалююць душы жыхароў Бярозы.

"Гістарычная брама" выдаецца раз у два месяцы і распаўсюджваецца бясплатна. Выданне цікавае не толькі з пункту гледжання гісторыі, але і адраджэння беларушчыны, памяці, ушанавання сваіх продкаў. Кантактныя тэлефоны выдаўцоў "Гістарычнай брамы" — (01643) 2-27-85, 2-45-72.

## Святаў стала менш

26 сакавіка прэзідэнт падпісаў Указ "Аб дзяржаўных святах і святочных днях у Рэспубліцы Беларусь". Гэты акт сістэматызаваў святы ад дзяржаўных да прафесійных.

Рэзка зменшылася колькасць святаў, дні якіх раней былі непрацоўнымі. Асабліва гэта тычыцца рэлігійных. На жаль, прэзідэнт не ўключыў у "непрацоўны" пералік другі дзень каталіцкага і праваслаўнага Вялікадня, Дзень памяці (Дзяды).

Хаця менавіта на Дзяды людзі сем'ямі, цэлымі пакаленнямі збіраліся разам з розных куткоў краіны, каб памянуць на могілках продкаў, добраўпарадкаваць месцы пахаванняў. Гэта неяк аб'ядноўвала, папаўняла духоўныя сілы, змяншала азлобленасць ад цяжкага жыцця, выхоўвала дзяцей у павазе да продкаў, звязвала пакаленні.

У той жа час недарэчна на гэтым фоне выглядае ў якасці непрацоўнага Дзень кастрычніцкай рэвалюцыі, што паклала пачатак знішчэнню і разбурэнню. Відаць, у гэты дзень даецца магчымасць на поўныя грудзі пасумаваць па кілбасах за 2-20.

Выключаны з пераліку непрацоўных і Дзень Канстытуцыі. У краінах з развітай дэмакратыяй гэта — адно з асноўных па значнасці святаў.

# ЗАЎТРА — ВЯЛІКДЗЕНЬ

### (па календары каталіцкай канфесіі)



## Хрыстос сапраўды ўваскрос!

*Свята Вялікадня — Хрыстовага Уваскрасення — цэнтр, галоўная падзея новазапаветнай гісторыі. "Калі Хрыстос не ўваскрос, то і вера наша марная", — піша святы апостал Павел. Уваскрасенне Хрыстова — гэта перамога над смерцю, над грахом, над усякім злом. Гэта залог нашага ўваскрасення. Гэта ўваскрасенне надзей, веры ў будучыню, свята вясны і ўрачыстасць жыцця.*

*Слова Пасха ў яўрэяў азначае збаўленне. Святкуючы старазапаветную Пасху, яны ўзгадваюць пра вызваленне сваіх продкаў ад шматвяковай егіпецкай няволі. Мы, хрысціяне, у дзень Светлага Хрыстовага Уваскрасення святкуем збаўленне ад рабства д'ябла, перамогу дабра над усякім злом.*

*Набажэнства, якое служыцца ў гэты дзень, напоўнена вялікай радасцю. Пасля ўрачыстай працэсіі, перад зачыненымі дзвярыма храма, як быццам перад запячатаным Хрыстовым гробам, пачынаецца Велікодная Ютрань. Тут першы раз мы чуем радасны спеў: "Хрыстос уваскрос з мёртвых..." Пры гэтым спеве святар крыжом адчыняе дзверы храма ў знак таго, што Хрыстова смерць адчыніла нам дзверы ў Неба.*

*У дзень Пасхі Святая Літургія служыцца вельмі ўрачыста. Св. Евангелле ў гэты дзень чытаецца на розных мовах, а ў нас, безумоўна, і на нашай роднай беларускай мове. Евангелле гэтага дня гаворыць пра Хрыстовую Боскасць, і менавіта Ягонае Уваскрасенне з'яўляецца лепшым доказам Ягонай Боскасці. Тое, што хрысціяне ва ўсім свеце ў адзін і той жа час, кожны народ у сваёй роднай мове, а таксама і ў іншых мовах узносяць хвалу Госпаду, азначае ўсяленскасць гэтай падзеі. Разам з усімі хрысціянамі ўзнясём жа і мы свае малітвы на хвалу Госпада, памолімся за еднасць у Хрысце нашага беларускага народу, за еднасць усіх хрысціянаў!*

*Вялікоднае прывітанне "Хрыстос уваскрос!" першы раз прагучала з вуснаў анёла да жанчын-міраносіцаў пры труне Гасподняй. Гэтае радаснае прывітанне ўжо амаль 2000 гадоў гучыць у хрысціянаў на працягу ўсяго Пасхальнага часу. Далучымся ж і мы да гэтага анельскага клічу, павіншуйма адзін аднаго са святам Светлага Хрыстовага Уваскрасення.*

*Пасхальная радасць ёсць святая радасць, роўнай якой няма і не можа быць на ўсёй зямлі. Гэта бясконцая радасць вечнага жыцця, пра якую сказаў Сам Гасподзь: "Узрадуецца сэрца вашае, і радасці вашай ніхто не адыме ў вас" (Ян, 16, 22).*

*Будзем спадзявацца, што гэтае радаснае свята Хрыстовага Уваскрасення будзе залогам адраджэння нашага беларускага народу і нашай Бацькаўшчыны.*

*Хрыстос уваскрос! Уваскрэсне й наша Беларусь!*

*Хрыстос жыве!..*

*Святар Ігар КАНДРАЦЬЕЎ, душпастыр для грэка-католікаў Брэсцкай вобласці, парах Берасцейскай парафіі святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя.*

● ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ПУБЛІКАЦЫІ "10-Ы "А" НА ЗАНЯТКІ НЕ ВЫЙШАЎ..."

# ХТО КАМУ ДАЎ УРОК?

Як мы і абяцалі, паважаныя чытачы, вяртаемся да ЧП, якое адбылося ў першыя два дні красавіка ў івацэвіцкай СШ № 2 і якое з нечыёй лёгкай рукі назвалі... забастоўкай вучняў. Пераказ падзей пачнём з грознага званка з Івацэвіцкага раённага аддзела адукацыі, а дакладней яго начальніка В. М. Басалая, які пазваніў у рэдакцыю «Газеты для вас» пасля выхаду яе № 26, у якім была надрукавана інфармацыя «10-ы «а» на заняткі не выйшаў...»

— На якой падставе вы пішаце пра забастоўку дзесяцікласнікаў (!) у СШ № 2? Хто вам даў гэтую інфармацыю? — пытанне Васіль Мікалаевіч паставіў, што называецца, рубам.

Прызнаемся, што, перш чым адказваць на пытанне, мы на нейкую хвіліну нібы сумеліся. Сумеліся таму, што ў такім выпадку журналісты заўсёды маюць адзін адказ: пішам на падставе «Закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», а звесткі аб крыніцах інфармацыі (калі гэтага патрабуюць інтарэсы газеты і яе інфарматара) можа запатрабаваць толькі суд. Але мы не сталі ў позу В. М. Басалая і адказалі яму проста:

— Вучні СШ № 2 і іх бацькі.

— Якія канкрэтна вучні і канкрэтна бацькі?

Вось тут мы перапынім нашу размову з начальнікам РАА, бо да яе яшчэ вернемся. І скажам: на жаль, і цяпер жыццё наша ў многім нагадвае часы, калі канкрэтным людзям у канкрэтных абставінах было лепш не афішаваць сваё імя. Сумна, але менавіта так патрэбна весці сябе і вучням 9 «а» і 10 «а» СШ № 2 і іх бацькам. Вылучэнне «арганізатараў» смуты, забастоўкі, беспарадкаў ці іншых падзей, якія могуць кваліфікавацца такім негатыўным чынам, — хіба адкрыццё для нас? Таму, паважаныя чытачы, мы спадзяёмся на ваша разуменне: адсутнасць у нашым артыкуле канкрэтных імёнаў і прозвішчаў вучняў і іх бацькоў — суровая неабходнасць. Як сказаў нам адзін з бацькоў, непажадана, «каб адыграліся на дваіх-чацвярых чалавеках»...

Ды і не было гэтых дваіх-чацвярых: за сваю звольненую з работы настаўніцу змагаліся ўсе 50 вучняў (9 «а» — 29, 10 «а» — 21). І ў рэдакцыю нашай газеты дзесяцікласнікі прыйшлі цэлым класам.

— Мы ідзём з РАА, — расказалі яны. — У нас звольнена з работы класны кіраўнік Л. Л. Валінская. Пра гэта мы даведаліся яшчэ на канікулах. Напісалі заяву ў РАА аб тым, што лічым звальненне любімай настаўніцы несправядлівым і патрабавалі аднавіць яе на рабоце. Пад гэтым пісьмом падпісаліся ўсе вучні 9 «а» і 10 «а» класаў і нашы бацькі. Але канікулы прайшлі, адказу на пісьмо мы не атрымалі. 1 красавіка 9 «а» моўчкі, не вымаючы падручнікаў і сшыткаў, прасядзеў на ўроку матэматыкі, які вяла ўжо не Л. Л. Валінская, а іншая настаўніца. 10 «а» пабыў на першых двух уроках працы, а потым на заняткі не пайшоў. Сядзелі на аўтобусным прыпынку і раіліся, што рабіць. Да нас падыходзіў дырэктар В. І. Жывіневіч і настаўніца хіміі В. В. Кадыка, клікалі ў клас, казалі, што мы будзем пакараны.

Пасля чацвёртага ўрока ў школу прыйшлі з РАА А. М. Грэчны і Г. Э. Швед. Нас запрасілі на гутарку з імі. Яны расказвалі нам, што наша настаўніца — прагульшчыца, займаецца камерцыяй, звольнена з работы па Закону. Гаварылі, што мы не маем права патрабаваць яе аднаўлення на рабоце і прапускаць па гэтай прычыне заняткі. Што мы будзем пакараны — атрымаем вымовы, нездавальняючыя адзнакі па паводзінах. Нават пра калонію ўспомнілі, што і туды мы можам трапіць. Давалі нам запаўняць анкету, дзе пытанні ўсе былі аб Л. Л. Валінскай. А мы казалі Грэчнаму і Швед, што камерцыяй цяпер займаюцца многія настаўнікі. Што Людміла Лук'янаўна — добры матэматык, арганізатар, класны кіраўнік. Што ў нас ёсць у школе настаўнікі, якія прыходзяць у школу нецвярозыя, б'юць вучняў. І іх ніхто з работы не звальняе.

Назаўтра мы пайшлі ў РАА. Там з намі гутарыў начальнік аддзела В. М. Басалай. Ён таксама гаварыў, што наша настаўніца — прагульшчыца, пастаянна парушае працоўную дысцыпліну, ездзіць за мяжу, займаецца камерцыяй. Калі ж мы не пойдзем на заняткі ў школу, то будзем пакараны. І бацькі будуць пакараны за наша дрэннае выхаванне штрафамі (бяднейшых аштрафуюць на 5 мінімальных зарплатаў, а багацейшых яшчэ на большую суму).

Потым у РАА прыйшла заплаканая Людміла Лук'янаўна, бо ёй нехта з бацькоў сказаў, што мы пайшлі ў РАА. В. М. Басалай стаў гутарыць з ёю, а нам сказаў ісці ў школу.

Але мы ў школу не пайшлі, бо рашылі змагацца за нашу настаўніцу да канца...

На наступны дзень вучні занеслі ў аддзел па кіраванню горадам Івацэвічы заяву ад свайго імя і імя бацькоў на пікетаванне РАА з прычыны звальнення настаўніцы Л. Л. Валінскай. Калі ішлі ўжо дамоў, то сустрэлі сваю настаўніцу. Яна сказала, што яе зноў прынялі на работу ў СШ № 2. Яны ўзрадаваліся і пайшлі на заняткі. Людміла Лук'янаўна правяла ў гэты дзень урок матэматыкі ў 9 «а»...

— Мяне звольнілі з работы 21 сакавіка, — сказала нам Л. Л. Валінская, настаўніца, за якую гарою сталі вучні. — Не буду тут апраўдвацца і скажу: я сапраўды ездзіла на Крайнюю Поўнач да брата. Адпрасілася ў дырэктара школы В. І. Жывіневіча. Думала, вярнуся своечасова. Але Поўнач ёсць Поўнач. Там была нялётная пагода. Пазваніла дахаты мужу, каб схадзіў у школу, занёс заяву на водпуск за свой кошт на дні, якія я вымушана прапусціць. Муж зрабіў гэта. Але калі я прыехала, то даведалася, што з работы звольнена. Вядома, было крыўдна: я ж на паездку дазвол ад дырэктара школы атрымала. І затрымалася не па сваёй віне. Яшчэ сама сабе падумала: з работы мяне звольніць няцяжка (як і любога чалавека цяпер). А вось адабраць павагу вучняў і іх бацькоў будзе цяжэй...

Настаўніца нібы ў ваду глядзела. Якім бы негатыўным чынам яе ні характарызавалі вучням і кіраўніцтва школы, і работнікі РАА, і сам начальнік аддзела В. М. Басалай, старшакласнікі выказалі свайму класнаму кіраўніку і вялікую павагу, і давер. З чаго б гэта?

Апошняе пытанне мы паспрабавалі задаць В. М. Басалаю.

— А мы звальнялі Валінскую не за тое, што яна кепскі спецыяліст ці дрэнны класны кіраўнік. Яе звольнілі за прагулы. Прычым, за сістэматычныя прагулы.

— Так, у нас 1700 настаўнікаў, і я асабіста не ведаю, які спецыяліст Л. Л. Валінская, — нібы ўторыць В. М. Басалаю намеснік начальніка аддзела адукацыі Г. Э. Швед. — А вось што яна прагульшчыца, што ад нас патрабавалі яе звальнення з работы яшчэ ў мінулым годзе за паездкі за мяжу, заняткі камерцыяй, то гэта — факт...

— А хто патрабаваў? — запыталіся мы.

—Ну, я ўжо і не помню. З ОБХСС (цяпер і аддзела такога няма — **рэд.**) былі прадстаўленні, з пракуратуры нібыта...

— А чаго ж не звольнілі, калі такія сур'ёзныя патрабаванні былі?

— Ды папярэдзілі, каб больш нічога такога не рабіла...

— А што — хіба забараняецца настаўнікам за мяжу ездзіць ці яшчэ куды-небудзь? Ды яшчэ з дазволу дырэктара сваёй школы?

— Я пра прагулы вяду размову...

— Ну тады такое пытанне проста напрошваецца: калі чалавек (настаўнік, рабочы, служачы) сістэматычна прагульвае і яго звальняюць з работы, то гэта лагічна. А вось калі злоснага прагульшчыка праз пару дзён бяруць на работу, то ці прысутнічае тут хоць элементарная логіка?

— Усё ў выпадку з Валінскай лагічна зроблена, — так адказвалі нам і В. М. Басалай, і Г. Э. Швед, і дырэктар школы В. І. Жывіневіч. — Яна атрымала ўрок. Але тое, што яе зноў на работу ўзялі, — дык проста дзяцей пашкадавалі, хутка ж вучэбны год заканчваецца...

Паважаныя чытачы! Мы пастараліся расказаць аб ЧП у СШ № 2 усё тое, што самі ведаем. Вы ж рабіце вывады самастойна. Напрыканцы толькі скажам наконт шкадавання дзяцей, г. зн. дзесяцікласнікаў: усім без выключэння ім аб'яўлены вымовы і даведзена ўжо цяпер да ведама, што па паводзінах за чацвёртую чвэрць яны атрымаюць нездавальняючыя адзнакі за прагулы. Ім было выказана меркаванне, што, мабыць, ніхто з іх не закончыць школу з залатым медалём. Калі пра гэта даведаліся бацькі, то адзін з іх пазваніў нам у рэдакцыю і сказаў:

— Во ўмеюць у нас дзяцей шкадаваць! Клас! Няхай бы ў РАА сябе так пашкадавалі?

І наконт урокаў: хто, каму і якія даваў у гэтай гісторыі? Дарослыя — падначаленым і дзецям, ці дзеці — дарослым? Складанае пытанне!

Зрэшты, добра ўсё, што добра заканчваецца: дзеці ходзяць зноў у школу, настаўніца працуе, у дырэкцыі школы і РАА усё ціха, усё ідзе добра. Што датычыцца камерцыі (як называюць у РАА паездкі некаторых настаўнікаў з торбай у Расію ці ў Польшчу, каб да беднай зарплаты педагога дадаць нейкі долар ці нават сто), то давайце асудзім яе ўсе разам. Настаўнік павінен вучыць дзяцей. І зарплату атрымліваць такую, каб весці не толькі годнае існаванне, але і клапаціцца аб сваім высокім прэстыжы педагога. Ці не так?

*Л. ЦАЛУЙКА.*

● ВАША ЗДАРОЎЕ

# Яд для патомства

Да гэтых ядаў адносяцца алкаголь, курэнне і наркотыкі.

Аб згубным дзеянні алкаголю на патомства чалавека было вядома яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Людзі, якія злоўжывалі алкаголем, не толькі разбуралі сваё здароўе, але і пазбаўляліся магчымасці мець здаровае патомства.

Яшчэ ў старажытнасці існавалі добрыя звычаі, якія ахоўвалі маладых ад спіртнога. Так, жанчына не дапускала блізкасці п'янага мужчыны. На рускіх вяселлях, напрыклад, жаніху і нявесце замест гарэлкі давалі толькі квас.

Нават аднаразовы прыём спіртных напіткаў можа аказаць згубны ўплыў на палавую клетку, гатовую да апладнення. Калі ў момант зачацця бацькі знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, то гэта будзе мець небяспечныя вынікі для развіцця плода.

Найбольш адчувальны зародыш да дзеяння алкаголю ў першыя дні свайго развіцця. Вельмі небяспечнае ўжыванне спіртных напіткаў у першыя 12 тыдняў цяжарнасці, калі адбываецца фарміраванне органаў будучага дзіцяці. У гэтым выпадку магчыма недаразвіццё рук, ног, расшчапленне пазваночніка з выступаючай пад скуру часткай спіннога мозгу, а таксама цвёрдага і мяккага нёба.

У дзяцей, якія нарадзіліся ад маці, што ўжывае спіртное, рэзка зніжана супраціўляльнасць арганізма да інфекцыйных, кішэчных і прастудных захворванняў. Многія дзеці нараджаюцца з паралічамі, парушэннямі зроку і слыху. Больш паловы з іх не дажываюць да году, паміраюць ад ацёкаў мозгу, сутараг. А выжыўшыя дзеці адстаюць у развіцці, малакроўны і маюць схільнасць да розных захворванняў, асабліва нярвова-псіхічных.

Кормячая маці, якая ўжывае спіртныя напіткі, можна цвёрда сказаць, што губіць сваё дзіця з самага пачатку яго жыцця. Гэта прыводзіць да розных разумовых і фізічных недахопаў, а таксама да нематы, глухаты і слепаты. Часцей за ўсё такія дзеці доўга не жывуць.

Наступная згубная звычка многіх жанчын – курэнне. Яны не задумваюцца над вынікамі свайго захаплення. Дзеянне ядаў табачнага дыму сказваецца не адразу, а праз некалькі гадоў.

Відаць, не ўсе ведаюць, што ў табачным дыме ўтрымліваецца больш за 30 шкодных рэчываў. І ў першую чаргу – нікацін, чадны газ, канцэрагенныя рэчывы. Нікацін аказвае наркатычнае дзеянне. Пры курэнні ён паступае ў арганізм у два разы хутчэй, чым алкаголь. Больш за ўсё шкоды наносіцца жаночаму арганізму. У жанчын раней часу паяўляюцца маршчыны, голас становіцца хрыплым, грубым, зубы пакрываюцца жаўцізной, часам чарнеюць.

Але зусім не дапушчальна, калі курыць цяжарная жанчына. Паражэнне нікацінам у пачатковыя тэрміны цяжарнасці найбольш небяспечна. Дзеці, як правіла, нараджаюцца слабымі, адстаюць у фізічным і разумовым развіцці. У першыя гады жыцця паміраюць часцей звычайнага. Вырастаючы ў сем'ях, дзе кураць, дзеці больш за ўсё схільны да хвароб органаў дыхання, да прастудных захворванняў.

І яшчэ адзін яд будучага патомства – наркотыкі. У апошнія гады павялічылася колькасць наркаманаў і большая палова іх – жанчыны. У іх пад уздзеяннем наркотыкаў адбываюцца хуткія змены ў арганізме, парушаецца дзетародная функцыя, а ў выпадку цяжарнасці згубна ўплываюць на будучае патомства.

У дамах дзіцяці растуць і выхоўваюцца сыны і дочкі наркаманаў – нявінныя ахвяры, няшчасныя, знявечаныя, паралізаваныя, непаўнацэнныя, якія павінны стаць страшным напамінкам і грозным папярэджаннем для ўсіх.

Сёння ўнутрывеннае ўвядзенне наркотыкаў стала прычынай самага масавага заражэння ВІЧ-інфекцыяй у нашай рэспубліцы. ВІЧ папаў у асяроддзе шпрыцавых наркаманаў. Наркотыкі зніжаюць самакантроль і робяць верагодным уступленне ў беспарадачныя палавыя сувязі, у тым ліку і з партнёрам, заражаным вірусам СНІДа.

Помніце! Алкаголь, курэнне і наркотыкі ў любых дозах – яд для патомства.

*Т. МІКІЦІЧ,*
*урач-валеолаг*
*Івацэвіцкай*
*раённай бальніцы.*

● ПРЫРОДА І МЫ

# Пра нераст і забарону

Пра важнасць нерасту рыб гаварыць не прыходзіцца. Гэта разумеюць вельмі многія. Таму ў мэтах захавання рыбных рэсурсаў рыбагаспадарчых вадаёмаў Рэспублікі Беларусь забаронена ўсялякае рыбалоўства з 1 красавіка па 30 мая ўключна.

Дазваляецца аматарская лоўля рыбы адной паплаўковай вудай з адным кручком з барага і не ў месцах нерасту рыбы. Так, у Івацэвіцкім раёне можна пасядзець з вудай на беразе вадаёмаў ля Няхачава, ля Івацэвіч, ля в. Яглевічы, на азёрах у Бабровічах, Соміне, на Вулькаўскім возеры.

У Бярозаўскім раёне дазволена аматарская лоўля на вадаёме "Сонечны", на падводным канале да Бярозаўскай ДРЭС, рацэ Ясельда, на абвадным канале вадасховішча "Селец".

● ЗАДУМАЕМСЯ!

# ЦІ БУДЗЕ ІСНАВАЦЬ БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯ ПРАЗ СТАГОДДЗЕ?

Згодна меркаванню буйнейшых замежных і айчынных навукоўцаў некаторыя нацыі паступова крочаць да свайго выраджэння. У першую чаргу гэта тычыцца славянскіх народаў, а становішча беларусаў сярод іх — адно з самых несуцяшальных. Справа ў тым, што прыкладна з 1993 г. ідзе незваротны працэс вымірання беларускай нацыі. Гэта пацвярджаецца наступнымі фактамі.

Ужо некалькі год запар у Беларусі смяротнасць перавышае нараджальнасць. Сярэдняя працягласць жыцця мужчыны-беларуса — 57 год, жанчыны — 70. Між тым, на пачатку XX стагоддзя сярэдняя працягласць жыцця мужчынбеларусаў складала 90 год. Дзве трэці дзяцей не нараджаецца з-за абортаў. Па колькасці апошніх Беларусь займае сёння трэцяе (!) месца ў свеце. А пятая частка тых, што нараджаюцца — разумова адсталыя з-за непаўнавартага харчавання маці ў час цяжарнасці. Вучонымі даказана, што калі 14% нарадзіўшыхся — дэбілы, то народ асуджаны на выміранне. У нас жа такіх 20%. Тыя, што нараджаюцца нармальнымі, у дзяцінстве і юнацтве набываюць іншыя захворванні і сёння ўжо вельмі цяжка знайсці абсалютна здаровага 20-гадовага беларуса. Прагнозы на недалёкую будучыню яшчэ больш змрочныя. Ужо да 2010 г. трэць насельніцтва краіны будзе псіхічна хворай. Японскія вучоныя прадказваюць у XXI стагоддзі небывалы рост анкалагічных захворванняў, які ў першую чаргу закране зноў жа Беларусь (з-за моцнай забруджанасці чарнобыльскімі радыёнуклідамі). Так што існаванне беларусаў як нацыі ўжо ўсур'ёз пастаўлена на карту.

Якія ж найбольш небяспечныя фактары пагражаюць нам сёння? Гэта — радыёактыўнае і тэхнагеннае забруджванне паветра, вады, зямлі, прадуктаў харчавання;

незбалансаванае і непаўнавартае харчаванне. З-за надзвычай цяжкага эканамічнага становішча асноўная ежа большасці беларусаў — гэта хлеб, бульба, макаронныя вырабы. І як вынік — пастаянны недахоп мінеральных рэчываў, вітамінаў;

татальнае алкагольнатытунёвае атручванне;

жахлівыя тэле, відэафільмы і некаторыя камп'ютэрныя гульні, што негатыўна ўплываюць на псіхічны і маральны стан людзей, асабліва дзяцей.

Спіс можна працягваць. Але лепей шукаць паратунак. І сёння гэта справа кожнага чалавека, які хоча мець сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей, бо няма ўжо надзеі ні на дзяржаву, ні на медыцыну. А пазбегнуць вымірання і ўратавацца яшчэ магчыма.

*По матэрыялах прэсы падрыхтаваў*
*М. СІНКЕВІЧ.*

● КРЫМІНАЛ

# Сумны фінал

Чалавек нідзе не працуе, але з дня ў дзень знаходзіцца на добрым падпітку і блытаецца без справы па горадзе туды-сюды. За які кошт ён п'е? І, наогул, як ён жыве?

Хто ж цікавіцца такім чалавекам? Па праўдзе кажучы, ніхто. "Як ніхто? — могуць запярэчыць мне. — А міліцыя?"

Так, міліцыя цікавіцца толькі ў тых выпадках, калі той жа чалавек з'явіўся п'яным у грамадскіх месцах, парушае парадак або здзейсніў злачынства.

І вось такіх аматараў п'янак, пра якіх сказана вышэй, у нас развялося нямала. Адна з іх — Наталля Віктаровіч, жыхарка Івацэвічаў. Яе па прозвішчу мала ведаюць, а вось па мянушцы "Белка" — вельмі многія, асабліва выпівакі. Дарэчы, яе сужыцель Бялевіч асуджаны і знаходзіцца на казённых харчах. Так што жанчына, як кажуць, свабодная. І гэтую свабоду яна скарыстала па свайму ўгледжанню. Па-ранейшаму п'янствавала і, вядома, нідзе не працавала. І дапілася да таго, што яе вымушаны былі паслаць на прымусовае лячэнне ў Магілёўцы. Але і там Віктаровіч не ўстрымалася і наладзіла п'янку. За парушэнне лячэбнага рэжыму яе проста выгналі з лячэбнай установы. Калі чалавек вораг свайму здароўю, то тут мала хто дапаможа.

Вяртаючыся дамоў, Віктаровіч часова спынілася ў Косаве. І тут знайшла сабе сабутэльнікаў. Увесь дзень адводзіла душу за сталом, а ноччу рашыла нечым падзарабіць, каб было за што працягваць пачатае. На яе дарозе аказалася прыватная майстэрня па рамонту абутку. Майстэрня дык майстэрня — рашыла жанчына і забралася ў яе. Тры пары жаночых ботаў Віктаровіч прыхапіла з сабой. У адны прыбралася сама, скінуўшы старыя. Другія пакінула ў Косаве свайму сабутэльніку як плату за добры прыём. А трэцця боты павезла з сабой у Івацэвічы.

Тут, у райцэнтры, і вырашыла іх збыць, каб прадоўжыць п'яное жыццё. У кафэ "Смак" буфетчыца В. рашыла купіць жаночыя боты. Дала Віктаровіч 400 тысяч рублёў, бутэльку віна і бляшанку на закусь (дарэчы, такія боты каштуюць звыш мільёна рублёў). Буфетчыца В. ведала, што купляла, ведала і ў каго, і не сакрэт для яе было, што боты крадзеныя. Бо гэтую наведвальніцу не раз сустракала тут, бачыла, хто яна такая і чым дыхае, але паквапілася на тыя боты.

Што ж далей? Узбуджана крымінальная справа. Ідзе следства. Віктаровіч чакае лава падсудных. Што ж, якія паводзіны, такі фінал. Сумны.

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# Что наша жизнь? Игра!

Если вы попали на Ивацевичский автовокзал в час наибольшего скопления людей и вам необходимо при этом купить билет, знайте — пришло время играть.

Перед каждой из касс, обсолютно ничем не помеченной, стоят очереди — и вы должны угадать, какая из них обслуживает ваше направление. Если угадали, то наградой будет купленный вами билет; если, к несчастью вашему, нет, то уже никуда не денешься, придется выслушать характерные реплики кассира, живо реагирующего на ваш проигрыш. "Не нравится — не стой", "Иди в другом месте объясняйся", "Много вас таких умных развелось", — какие родные, привычные нашему слуху слова! Чего обижаться?

Жизнь — игра! Становитесь в другую очередь.

И, главное, все надо понимать правильно. Казалось бы, станете возмущаться вы, что стоит работникам автовокзала повесить над кассами не стенд, не таблицу — простой лист бумаги с указаниями направлений. И будете неправы. Ведь наше государство заботится о простых людях, а раз тут этой заботы и в минимальном отношении нет — знайте, вас, стоящего в очереди, также как и всяких бабок и теток, топчущихся рядом с вами с авоськами, государство относит не к каким-то там простым людям, а к "крутизне", считая, очевидно, что за зданием у каждого из вас стоит шестисотый мерседес. Чем не утешение!

*К. ВАСИН.*

*СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ*

*Дорогого и любимого Александра Ивановича*
***РУСАКА***
*из г. Ивацевичи*

***от всей души поздравляем с днем рождения. Здоровья тебе, Саша и счастья!***

*Желаем мы в работе вдохновенья,*
*В кругу семьи — добра и теплоты,*
*Среди людей — любви и уваженья,*
*А в личной жизни —*
*сбывшейся мечты.*

*Мама, семьи сестры Ларисы и брата Игоря.*

● СЛУЖБА 01

# Пачынаецца з сухой травы...

Штогод вясенне-летні перыяд вызначаецца сапраўдным успляскам пажараў. З надыходам яго нярэдкія выпадкі пажараў у лясах і на тарфяніках. Асноўныя прычыны ўзнікнення такіх пажараў — неасцярожнае абыходжанне з агнём (40% ад агульнай колькасці такіх пажараў) і дзіцячае свавольства з агнём (да 30-ці %). Прамы матэрыяльны ўрон ад пажараў, што адбыліся ў дадзены перыяд летась, склаў паўтара мільярда рублёў у той час, калі ўсе гадавыя матэрыяльныя страты ад пажараў склалі 1,8 млрд. рублёў.

За мінулы вясенне-летні перыяд падраздзяленнямі пажарнай службы раёна ліквідавана 63 пажары ў лясах і на тарфяніках на агульнай плошчы 170 га.

Пажары ў лясах і на тарфяніках набываюць буйныя памеры з-за таго, што выяўляюцца позна, а калі і заўважаюць, то своечасова не прымаюць меры па іх ліквідацыі. У першую чаргу гэтая праблема тычыцца сельгаспрадпрыемстваў. Асабліва характэрна такая з'ява для земляў гаспадарак, размешчаных у розных урочышчах на значных адлегласцях ад саміх гаспадарак і наогул ад населеных пунктаў.

Тушэнне такіх пажараў заўсёды патрабуе многа матэрыяльных затрат, шмат людской сілы і часу. Менавіта ў такіх абставінах ліквідаваліся летась пажары на землях АФК "Беларусь" (ур. "Заялоўе"), калгаса "Грыўдзенскі", саўгаса "Перамога", Жытлінскага лясніцтва.

Асноўнай крыніцай узнікнення пажараў у лясах і на тарфяніках увесну з'яўляецца выпальванне сухой травы і іншай расліннасці. Гэта стала прычынай узнікнення і развіцця шматлікіх ачагоў пажараў на землях саўгаса "Перамога" ва ўрочышчы "Курылец". Летась пажарнымі падраздзяленнямі раёна тут было ліквідавана 16 такіх пажараў. 6 ачагоў тарфяных пажараў было патушана ў тым жа ўрочышчы ўжо на плошчах калгаса імя Чапаева.

Значныя цяжкасці ў выяўленні і ліквідацыі пажараў ствараюць землі Дзяржземфонда, плошча якіх у раёне складае 2522 га. Практычна ўсе загаранні, якія тут узнікаюць, заўсёды дасягаюць буйных памераў. Адзіны, канкрэтны гаспадар -землекарыстальнік , такіх земляў амаль заўсёды адсутнічае. У тым жа ўрочышчы "Курылец" на землях Дзяржземфонда летась пажар ахапіў плошчу больш як 100 га. Тым больш, што з-за балоцістай мясцовасці прымяніць пажарную тэхніку не змаглі. Гэты пажар здолелі патушыць толькі зацяжныя дажджы.

Не менш сумяшальныя малюнкі даводзіцца назіраць і сёлета, калі сухую, пажухлую мінулагоднюю траву падпальваюць амаль усе, хто не лянуецца. Рыбакі-аматары паляць траву і сухі чарот уздоўж берагоў рэчак Грыўда і Шчара, дарожнікі выпальваюць расліннасць абапал шасэйных дарог, а чыгуначнікі — абапал чыгунак.

На палетках калгаса "Любішчыцы" спальваюць пракосы леташняга сена, якое так і перазімавала на лузе. Гарыць сухая трава паблізу вёсак Аброва, В. Аброўская, Козікі, Любішчыцы і многіх іншых. У час веснавых школьных канікулаў і рабяты-свавольнікі хадзілі пагуляць у лес, прыхапіўшы з сабой запалкі. Карацей кажучы, сёлетняя вясна не стала выключэннем адносна лясных і тарфяных пажараў.

Даволі часта можна назіраць вялізныя слупы дыму і буйныя языкі полымя ўздоўж меліярацыйных каналаў. Дымавыя завесы, нібы туманам, ахутваюць нашы вёскі. А ў цёмны час сутак пунцовыя заравы ў паўнеба прымушаюць людзей у страху тэлефанаваць пажарным, мяркуючы, што гэта буйны пажар. На самой справе гэта гарыць-палае сухая трава. І, здаецца, няма нікому справы ні да забруджвання паветра дымам і смуродам, ні да знішчэння шматлікай расліннасці, гібелі жывёлін.

У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам вінаўнікі веснавых падпалаў і вядома ж учыненых пажараў у лясах і на тарфяніках, павінны несці не толькі адказнасць матэрыяльную, але і крымінальную.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.*



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 10 красавіка ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



*Тыраж 1825.*
*Заказ 1118.*